ШОУ-БИЗНЕС

# Алена Ланская восхитилась гродненским костелом

*Певица сожалеет, что не все знают, насколько удивительна и красива белорусская земля.*

«Многие думают, что кроме Несвижского и Мирского замков в Беларуси приезжим гостям и показать нечего, – *подписала заслуженная артистка Беларуси Алена Ланская в социальных сетях серию снимков с Гродненщины.* – К счастью, это не так. Сегодня довелось лицезреть волшебной, фантастической красоты костел Пресвятой Троицы 1903 года постройки в Гродненской области. Тот редкий случай, когда слова излишни, лучше просто взглянуть на фото. Езжайте, не пожалеете!»



НЕ ПРОПУСТИТЕ!

# Встречаемся у фонтана!

*С 16 сентября на площадке около Большого театра Беларуси под открытым небом снова будет играть симфонический оркестр.*

*«Программы концертов, конечно, немного будут меняться,* – говорит дирижер **Олег Лесун**. – *Лично я всегда стараюсь хотя бы чуть-чуть настроить зрителя на волну того спектакля, который будут давать на сцене театра вечером после нашего выступления. Мы играем на открытом воздухе, а поэтому для концертов выбираю яркие номера – из балетов «Лебединое озеро», «Щелкунчик», «Спящая красавица», вальсы Г.Свиридова или А.Хачатуряна, «Венгерский танец» А.Дворжака, увертюру к опере «Кармен» Ж.Бизе или его сюиту «Арлезианка». Именно эти произведения звучат наиболее выигрышно, заводят публику и создают солнечное настроение. Может быть понятен абсолютно всем. Всегда радуюсь, когда после концерта ко мне подходят зрители и искренне, неподдельно удивляются: «А ведь я знаю эту музыку!» И это действительно так. В программе – популярная театральная классика. Это та музыка, которую, я бы сказал, можно слушать всегда. Она дарит удивительное – теплое – настроение. Музыка, наполненная исключительно положительными эмоциями. Музыка, которая звучит в такт сердца каждого слушателя...»*

Начало концертов – в **17.10**.

Летом концерты под открытым небом у входа в Большой театр собирали немало людей. И когда они закончились, было даже немного грустно – публика успела полюбить новый формат встреч с симфоническим оркестром. Здорово, что они возвращаются!



*«Эти концерты – другой формат существования музыканта,* – говорит дирижер **Иван Костяхин**. – *Подобные программы напоминают флешмоб. Просто есть люди, которые в силу воспитания и дарования общаются с миром через музыку. И этот язык, как оказывается...*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

**На фото: Публика от дирижера Ивана Костяхина была в восторге!**

КРУПНЫЙ ПЛАН

# Маргарита ЛЕВЧУК: «Мы потерли голосовые связки рукой, которую пожал Пласидо Доминго»

*Солистка Большого театра оперы и балета Маргарита Левчук лично познакомилась с легендарным оперным певцом Пласидо Доминго. Встреча двух звезд произошла совершенно случайно, на одной из тихих улочек австрийского Зальцбурга.*

*«Народная Воля» попросила Маргариту рассказать о впечатлениях от общения с артистом, которому рукоплещет весь мир.*

– Я хотела приехать в Зальцбург на день раньше, чтобы попасть на оперу «Пиковая дама», в которой поет мой однокурсник Павел Петров, тоже солист нашего театра, – *говорит Маргарита Левчук.* – Но я выиграла конкурс в Италии, и так получилось, что задержалась, и приехала позже – просто пообщаться. Мы с Павлом прогуливались в фестивальной зоне, на площади было много людей. Паша предложил обойти толпу с другой стороны. И мы свернули в какой-то тихий уголок. Шли, разговаривали, и вдруг Паша толкает меня в бок: «Смотри, Пласидо идет!». Я не сразу поверила, что это правда. И смотрела на маэстро так выразительно и пристально, что Пласидо вдруг остановился и сказал: «Хеллоу!» Я опешила...

Я подписана на него в «Инстаграме», слежу за его творчеством и знала, что он будет петь в Зальцбурге. Но эта встреча была очень неожиданной.

Пласидо Доминго прогуливался с женой и сыном. Я попросила разрешения сделать с ним фото, и Пласидо легко согласился. Подошел, обнял меня. Я удивилась его простоте! Для меня это бог, который в жизни оказался такой здоровский, без всяких понтов! Спросил, откуда я. Я ответила: «Из Беларуси, из Минска». Он обрадовался, сказал, что никогда не был в Беларуси и хотел бы приехать. Я сказала: «Маэстро, добро пожаловать! Мы вас ждем, давайте организуем концерт».

Пласидо сказал, что этот вопрос надо решать через его сына, который занимается менеджерскими вопросами.

Конечно же, я сказала ему, что тоже пою в опере. И он пожелал мне удачи в профессии и заметил, что это нелегкий труд.

Пласидо пожелал нам с Павлом успехов (кстати, Павел прошел отбор на конкурс «Опералия», который курирует Пласидо Доминго), пожал нам руки. Мы с Пашей вначале хотели неделю руки не мыть. А потом придумали, что нужно обязательно потереть голосовые связки рукой, которая еще хранит отпечаток энергетики Пласидо, – чтобы голос звучал!

Кстати, когда я написала пост в «Фейсбуке» о том, найдутся ли в Минске какие-то спонсоры, чтобы привезти Пласидо в Минск, мне сразу стали задавать конкретные вопросы: какой у него гонорар и так далее. Я не знаю, я просто певица и этими вопросами никогда не интересовалась. Но при этом надеюсь, что концерт Пласидо Доминго в Минске все же состоится! И кто знает – может, я еще спою с ним на одной сцене!



ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

**Маргарита Левчук** в 2016 году окончила Белорусскую государственную академию музыки в Минске (отделение оперных солистов, класс доцента Людмилы Щербаковой).

С 2012 года Маргарита Левчук выступает в концертах и спектаклях Музыкального дома «Классика», причем не только в Беларуси, но и в России, Литве, Польше, Франции и Германии.

С 2017 года – солистка Большого театра Беларуси.

В 2016-м Маргарита дебютировала как киноактриса в фильме «Ангел-хранитель» (роль певицы Элен). В ее исполнении в картине прозвучали две оперные арии.

Маргарита Левчук выступает с ансамблями и оркестрами: «Кантабиле», Partita, MuzzicDom Orchestra, «Камерные солисты Минска», разными симфоническими оркестрами.

**Пласидо Доминго** – испанский оперный певец, дирижер-постановщик Вашингтонской оперы и Оперы Лос-Анджелеса. Восемь лет назад 69-летний тенор перенес операцию по удалению раковых полипов толстого кишечника. Операция прошла удачно и не повлекла серьезных последствий для здоровья и продолжения карьеры. Всего через 6 недель после хирургического вмешательства Пласидо Доминго триумфально вернулся на сцену, выступив в миланском театре Ла Скала как баритон в опере Верди «Симон Бокканегра», прямую трансляцию спектакля вели десятки телекомпаний мира.

Чуть больше пяти лет назад Доминго был госпитализирован из-за тромбоэмболии легочной артерии, а через 3 недели после выписки уже выступал на Зальцбургском фестивале.

Доминго – автор книги воспоминаний «Мои первые 40 лет», первое издание вышло в 1983 году, мемуары неоднократно переиздавались. В 2009 году опубликована его книга «Радость оперы».

С 1993 года Пласидо Доминго дает путевку на большую сцену даровитым молодым оперным исполнителям – обладателям всех типов голосов. О цели конкурса маэстро говорит так: «*Для молодых артистов совершенно необходимо попасть в зону внимания импресарио, менеджеров, кастинг-директоров, дирижеров и руководителей театров, которые могут способствовать росту их профессиональной карьеры*». Каждый год 40 претендентов, прошедших строгий отбор, принимают участие в конкурсе «Опералия», проходящем в разных странах под патронатом певца, а их выступления оценивает авторитетное международное жюри.

**Марина КОКТЫШ.**

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

# «Не варта адкладваць візіт да доктара на наступны дзень...»

*Не так даўно старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы", дэпутат Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім паведаміла ў сацыяльных сетках, што вымушана перарваць адпачынак, бо яе падкасіла хвароба.*

*"Народная Воля" пацікавілася здароўем дэпутаткі.*



– Былі пэўныя нюансы, якія мяне не задавальнялі, і таму я за імі назірала, праводзіла розныя даследаванні ў сваёй паліклініцы, – *распавяла Алена Анісім.* – На жаль, на дыягназ так і не выйшлі. А пытанні са здароўем засталіся. І я скарысталася магчымасцю і звярнулася ў "лечкамісію". Мяне там добра абследавалі – ад звычайных аналізаў да больш сур'ёзных маніпуляцый. Праўда, давялося легчы ў стацыянар. Кожны дзень з раніцы да вечара было па некалькі працэдур.

На сённяшні дзень я маю пэўны дыягназ, зараз трэба амбулаторна яшчэ падлячыцца, а потым трэба зноў да дактароў звяртацца – каб працягнуць лячэнне.

У рэшце рэшт высветлілася, што я, магчыма, перахадзіла запаленне лёгкіх на нагах. Ну што зробіш... Конь на чатырох нагах і тое спатыкаецца, а мы сталеем...

**– Шмат працы, стрэсы – і нават самы моцны арганізм у адзін "цудоўны" момант проста не вытрымлівае...**

– Так, стрэсы – сапраўды адзін з тых момантаў, якія прывёў да збою.

**– Вядома, што дэпутаты прымацаваны да паліклінікі Рэспубліканскага клінічнага медцэнтра Кіраўніцтва справ прэзідэнта. Вы ў свой час казалі, што не хочаце губляць час на пераход са сваёй паліклінікі ля дома ў "лечкамісію": маўляў, буду бліжэй да народа, тым больш што дактары паўсюль аднолькавыя.**

– Я ішла ў дэпутаты не дзеля нейкіх асабістых выгод і дакладна не дзеля "лечкамісіі", а перш за ўсё дзеля таго, каб памяняць многія рэчы, якія адбываюцца ў нашай краіне. І калі ёсць магчымасць хоць трошкі паўплываць на дзяржаўную палітыку ў галіне мовы, адукацыі і культуры, то трэба скарыстаць гэтую магчымасць. А раптам нешта і атрымаецца?

І ў паліклініку я не рвалася. Увогуле, не вельмі люблю хадзіць па дактарах. Але, на жаль, так сышлося, што на падставе тых абследаванняў, якія праводзіліся ў паліклініцы, проста не было каму паставіць дыягназ. І можна было месяц ці год патрацець на высвятленне, што да чаго. У мяне была магчымасць звярнуцца ў "лечкамісію", і я ёю скарысталася.

**– Ведаю, што за некаторыя працэдуры вам давялося заплаціць...**

– Так, нават дэпутаты вымушаны плаціць грошы за нейкія працэдуры, і гэта нармальна.

У "лечкамісіі" шмат хто лечыцца па страхоўках, многія прыходзяць на платнай аснове, набываюць нейкія асобныя працэдуры. Вельмі многа і маладзёнаў, і людзей старэйшага ўзросту, прадстаўнікоў самых розных сацыяльных слаёў грамадства, не толькі прадстаўнікоў улады.

Варта скарыстоўвацца магчымасцю і адгукацца на сігналы свайго арганізма. Калі ты хочаш яшчэ многае зрабіць і паспець, за здароўем трэба сачыць асабліва. І не адкладваць візіты да доктара на наступны дзень, на "праз месяц". Бо наступствы могуць быць самыя розныя.

**– Здароўя вам, спадарыня Алена!**

– Дзякуй!

**Марына КОКТЫШ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Піяніст Юрый Бліноў запрашае на забег

*Прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі піяністаў, выдатны музыкант Юрый Бліноў стане ўдзельнікам дабрачыннай акцыі "Благозабег", якая адбудзецца 9 верасня.*

– Я і мой вялікі сябра, баяніст і спартсмен Антон Маляёнак, бяжым 21 кіламетр на Мінскім паўмарафоне у рамках дабрачыннай акцыі «Благозабег», – *распавядае Юрый Бліноў.* – Мэта акцыі, у якой возьмуць удзел вядомыя беларускія спартсмены і медыя-персоны, – прыцягнуць увагу да праблем хворых дзяцей і дзяцей-інвалідаў, а таксама дапамагчы сабраць сродкі для іх падтрымкі і рэабілітацыі. Мы плануем сабраць грошы на набыццё і эксплуатацыю спецыяльных бегавых калясак, якія дазволяць людзям з цяжкімі фізічнымі абмежаваннямі стаць удзельнікамі спартыўных забегаў і адчуць яркія эмоцыі ад спорту, зносін і дружбы.

Калі ласка, далучайцеся!

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**



Народная Воля
http://www.nv-online.info
28 ЖНІЎНЯ 2018 г.

НОВЫЕ ИМЕНА

# Анастасия ГРИНЕНКО: «Мне нравится быть первой!»

*В творческой биографии Анастасии Гриненко часто встречается слово «первый»: первая выпускница Белорусской академии искусств, получившая диплом режиссера музыкального театра; организатор первого и пока единственного в Беларуси частного музыкального театра; впервые в Минске благодаря ей поставлен на русском языке культовый бродвейский рок-мюзикл «Next to Normal» – «Недалеко от нормы».*

**– Анастасия, когда у вас появилось желание служить театру? Как вы поняли, что режиссура – это ваша судьба?**

– Театр меня привлекал с детства. Мне очень нравилось в школе придумывать какие-то сценки и ставить их, причем мне был интересен сам процесс. В 11-м классе на открытом уроке мы играли отрывок из «Вишневого сада» Чехова. После просмотра кто-то из членов комиссии сказал обо мне: «Этой девочке надо обязательно идти в театральный!» Но моя мама считала, что это несерьезно, а мне казалось, что в Белорусский театрально-художественный институт (современная Белорусская государственная академия искусств) поступают только какие-то особенные люди, почти что небожители. Мне не хватило смелости сразу после школы, и я подала документы в педагогический – там как раз открылась новая специальность «практическая психология».

Однако накануне экзаменов я вдруг поняла, что на самом деле эта профессия не моя. И я начала мечтать, что провалю вступительные и пойду учиться в культпросветучилище (ныне колледж искусств). Но… Часто так бывает: если не хочешь, у тебя, наоборот, все получается. Я успешно поступила в педвуз. Будучи студенткой, начала работать психологом: на тот момент была единственным школьным психологом в Первомайском районе, и все ходили на меня посмотреть. Поначалу мне было интересно проводить с подростками различные анкетирования, но потом это превратилось в рутину, организация психологической помощи стала уходить в бумаги… Мне стало скучно, и я решила, что хочу учиться дальше – конечно, в театральном!

Выбор специализации «режиссура музыкального театра» оказался делом случая: я хотела, конечно же, быть серьезным драматическим режиссером, ставить, например, Сартра, но в тот год на режиссуру драмы набора не было… Хотя, если честно, театр музкомедии был у меня с юности самым любимым, мы с подружками пересмотрели там весь репертуар. Особенно нравился спектакль «Стакан воды», его тогда только-только выпустили. Мне почему-то казалось, что это поставил молодой человек и что я тоже могу ставить похожее. Каково же было мое удивление, когда, поступив в театральный институт, я узнала, что курс режиссуры набирает Борис Второв, постановщик «Стакана воды»! Так всё сложилось наилучшим образом.

Это был первый набор режиссеров музыкального театра. После окончания курса защитилась я одна – с полным правом могу говорить, что я первый режиссер музыкального театра белорусского «розлива». Вообще, мне нравится быть первой! За столько лет работы очень полюбила этот жанр, и просто драма, без музыки, пения и пластики, мне сейчас кажется уже малоинтересной…

**– Ваши родители были как-то связаны с искусством?**

– Нет, папа у меня военный, а мама – педагог, учитель английского языка. Но в роду по маминой линии, как мы потом выяснили, есть потомки русского писателя Ивана Бунина, а папин дядя долгое время работал солистом в Киевской опере. Так что «гены» творчества имелись.

Я училась в музыкальной школе по классу фортепиано, правда, поначалу была не самой лучшей ученицей. Мне нравилось играть, разбирать произведения, но, как только доходило до разучивания гамм, отработки техники, я прогуливала. Однажды узнала, что на уроки по теории музыки и композиции меня записали «для массовости», так как педагог считала, что я все равно не буду ходить. Меня это очень обидело! Как это – «не буду ходить»? Тут же сработало чувство противоречия: я посещала все занятия, стала отличницей по теории музыки. Это мне очень помогло в дальнейшем, потому что без знания музыкальной грамоты в моей профессии невозможно.

**– Когда вы решили оставить работу психолога и связать жизнь с театром, родные поддержали вас?**

– Мои родные, наверное, всегда готовы меня поддержать! Хотя мама не очень желала для меня театрального будущего, однако она не противилась – я ведь была уже самостоятельным, взрослым человеком. А родной брат Алексей, который тогда учился в Лингвистическом университете, поддержал меня буквально – на сцене. У нас на курсе было мало мальчиков, а для изучения сценического движения очень нужны были партнеры. Поскольку брат был артистичен, хорошо танцевал, пел, я привела его в качестве своего партнера. Алексею так понравилось, что он прижился у нас на курсе, стал ходить к нам на занятия как вольный слушатель. В результате он закончил два вуза. Сейчас живет в Нью-Йорке, занимается там музыкальным театром, пишет диссертацию, преподает.

**– Образование психолога вам помогает в работе в театре?**

– В данной постановке – да, очень помогает. Но во время учебы оно скорее мешало. Психолог, когда работает, закрывается от своего клиента, а в театральном вузе мне нужно было научиться открываться как актеру, не бояться обнажить свой внутренний мир, показать своего героя на чувственном уровне. Все это для меня было тяжело. Кроме того, психологу нужно уметь много и долго говорить умными словами и терминами. А режиссура – профессия практическая, и мой учитель Борис Петрович Второв не жаловал много говорящих режиссеров, он учил нас выражать мысли кратко и емко, высказывать суть одним предложением. Когда я уже приобрела основные навыки в новой профессии, поняла, что образование психолога теперь мне помогает. Во-первых, шире кругозор, во-вторых, ты знаешь какие-то специфические вещи, ведь психология тесно связана с искусством, есть даже раздел «психология творчества». И искусство много черпает из подсознания.

**– Какие качества вы цените в людях?**

– В профессии – профессионализм и неравнодушие, потому что сейчас, как многие замечают, наступило «время непрофессионалов». В любой сфере ты можешь натолкнуться на непрофессионала, который с умным видом будет тебе что-то втемяшивать. В жизни люблю открытых, независтливых людей. И не люблю людей мнительных.

**– Ваш муж Дмитрий Якубович – руководитель театра «Территория мюзикла», хореограф, артист. Вы оба очень творческие люди, как у вас получается дома отстраняться от работы?**

– Обычно мы спорим только на репетициях. Иногда бывает, что и дома вспоминаем о работе *(смеется)*. На самом деле сложно разделить работу и дом. Может, это и перебор, но у нас в театре многие так. Если честно, мне кажется, что больше поводов для разногласий в семье, где женщина-режиссер, а муж работает, например, на заводе – им труднее найти взаимопонимание. У него выходные есть, а у тебя спектакли и в субботу, и в воскресенье… Семья тебя теряет – не каждый муж будет это терпеть. А когда оба люди творческие, то они понимают и поддерживают друг друга.

**Екатерина ЕРЕМИНА.**

(«Алеся».)

ШАШКІ

## Прывітанне з Украіны

Прапануем новыя творы ўкраінскіх аўтараў. У рускія шашкі кампазіцыі **Анатолія Баланюка** (г.Цепладар Адэскай вобл.) прапануем рашыць самастойна як заданні чарговага бліц-конкурсу.

№1 **Белыя**: c1, d2, f2, e3, e5, g5 (6).
**Чорныя**: h2, b4, h6, c7, h8 (5).
№2 **Белыя**: b2, d2, c3, g3, h4, b6 (6).
**Чорныя**: h2, a3, d4, f4, c5, e5, a7 (7).
№3 **Белыя**: a1, c1, f2, e3, d4, f4, h6 (7).
**Чорныя**: h2, a5, g5, b6, d6, f6, g7, f8 (8).
Суаўтар апошняй кампазіцыі – Г.Коган.

Наш пастаянны чытач **Фёдар Карпей** з Мядзела піша, што заданняў для самастойнага рашэння чамусьці прапануецца малавата. З нагоды гэтага творы ў міжнародныя шашкі другога ўкраінскага аўтара прапануем таксама рашыць самастойна па-за конкурсам. Гэта кампазіцыі **Валерыя Кручкова** (г.Кагарлык Кіеўскай вобл.).

№4 **Белыя**: 10, 14, 20, 31, 35, 41 (6).
**Чорныя**: 18, 19, 23, 25, 26, 34 (6).
№5 **Белыя**: 18, 23, 27, 32, 37, 41, 43, 49 (8).
**Чорныя**: 8, 10, 14, 19, 20, 22, 28, 33, 34, 38 (10).
№6 **Белыя**: 16, 18, 24, 27, 32, 37, 41, 42, 43 (9).
**Чорныя**: 7, 8, 9, 10, 21, 26, 28, 34, 39 (9).
№7 **Белыя**: 18, 19, 22, 24, 29, 30, 36, 42, 47 (9).
**Чорныя**: 1, 8, 11, 21, 27, 31, 35, 37, 39, 44 (10).
Далей прапануем праблемы **Івана Івацкі** (Вінніца).
№8 **Белыя**: 22, 25, 28, 30, 31, 37, 38, 39, 41 (9).
**Чорныя**: 9, 11, 12, 14, 17, 19, 21, 26, 34 (9).
23, 28, 20, 3(5**A**), 25, 46 x **A**(10), 25, 5(33), 32(39), 49 x.
№9 **Белыя**: 14, 15, 20, 24, 26, 30, 32, 39, 46, 47 (10).
**Чорныя**: 7, 8, 13, 16, 17, 23, 28, 35, 36, 40 (10).
21, 47-41, 41, 34, 2, 9, 47(36), 9, 36 x.
№10 **Белыя**: 18, 26, 27, 32, 37, 40, 41, 42, 47, 49, 50 (11).
**Чорныя**: 7, 9, 10, 12, 14, 17, 19, 20, 33, 35, 36 (11).
45, 28, 38, 21, 1, 24 x.
№11 **Белыя**: 16, 19, 20, 21, 24, 30, 36, 41, 43, 47, 48, 49 (12).
**Чорныя**: 9, 12, 15, 18, 27, 28, 32, 33, 37, 38, 40 (11).
48-42, 42, 43, 31, 4, 20, 17, 18, 19 x.

## Неверагодная архітэктура

Сваю чарговую задачу з неверагоднай архітэктурай прапануе галоўны архітэктар праектнага інстытута “Белдзяржпраект” **Анатоль Шабалін.**



№12 **Белыя**: дамкі 14, 18, 26, 27, 29, 38, 45, 50, шашкі 7, 8, 11, 13, 20, 24, 31, 32, 34, 42, 44 (19).
**Чорныя**: дамкі 4, 36, 47, 49, шашкі 2, 5, 25, 33, 35 (9).
29-23, 40(44**A**), 22, 18-40, 10, 20, 20, 34/29, 5(36-41**B**), 4, 17, 41, 36 + **B**(47-41), 15, 17, 41, 47 + **A**(14), 10, 32-28, 18-23, 50, 20, 20(1**C**), 45-7, 26-12, 6 + **C**(6), 11, 26-17, 1 +.

Неверагоднасць у тым, што чатыры фіналы для такога задання – вялікая рэдкасць, але і іх спалучэнне новае.

Задачу-64, але паводле бразільскай версіі, прапануе чэмпіён свету ў жанры “задачы-64” наш актыўны чытач **Аляксандр Шурпін** (Клімавічы). Гэта азначае, што гульня па правілах міжнародных шашак праходзіць на 64-клетачнай дошцы.



№13 **Белыя**: дамкі a3, e5, h8, шашкі f2, e3, g3, c5, d6, f6 (9).
**Чорныя**: дамкі g1, a7, g7, шашкі c3, d4 (5).
e5-c7(b8**A**), g7/f6, b4, a1, b8, h2 + (g1). **A**(h2), c1, d2!!, a1, b8 + (a7).

На заканчэнне дамачныя праблемы-100 ад вядучага рубрыкі.

№14 **Белыя**: дамкі 5, 22, 27, шашкі 13,14, 40, 44 (7).
**Чорныя**: дамкі 3, 50, шашкі 25, 33, 39, 42 (6).
8(3:21:14**A**), 30, 39 x **A**(3:17:14), 30, 39, 49 x.
№15 **Белыя**: дамкі 3, 4, шашкі 28, 40, 44 (5).
**Чорныя**: дамкі 11, 50, шашкі 25, 33, 38, 39 (6).
17(11:22**A**), 30, 39 x **A**(33:22), 30, 6, 50 x.
№16 **Белыя**: дамкі 22, 45, шашкі 18, 31, 43 (5).
**Чорныя**: дамка 47, шашкі 8, 11, 14, 17, 24, 26, 32 (8).
38(12**AB**), 3(28), 33, 47 x **A**(7), 1, 6, 42 x **B**(1), 39, 39-34 x.

## Аматарам завочнай гульні

Аб’яўляецца чарговы адкрыты чэмпіянат г.Мінска па завочнай гульні. Запрашаюцца ўсе жадаючыя. Даведкі па тэл. 501-50-34 у сакратара – **Уладзіміра Мікалаевіча Бандарыка**.

## Супаставім рашэнні

“Народная Воля” ад 17 ліпеня 2018 года.
**№9** – c3(g5), f4, g5(f4**A**), b4, h2(a7), c7 x **A**(f6), b4, h4 x.
**№10** – g3, d6, f2, c5(f6), d6(g5), c7(f4), b8(hg3, e3), f4, f6 x.
**№11** – f6, d4, b8, g3(b4, d4), f2(c3), e1(b6, b6), b2 x.
**№12** – c5, c7(b6), c7, c3, g1(e7, d6), e5, f2 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Клімавічы), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец). На гэты раз перамог **Леанід Жыхар** (Мядзел).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, “Шашкі”*** або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com.***

**Віктар ШУЛЬГА, міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

ВІНШУЕМ!




# Наша Арына

*Беларуская тэнісістка Арына Сабаленка перамагла на турніры ў амерыканскім Нью-Хэйвене. За першае месца Арына атрымала прыз у памеры 140 тысяч долараў. Гэта першая перамога беларускі на турніры топ-узроўню.*

Зараз Арына ўваходзіць у дваццатку мацнейшых тэнісістак планеты.

“Народная Воля” сабрала цікавыя факты з біяграфіі зоркі беларускага тэніса.

Арына Сабаленка нарадзілася 5 мая 1998 года ў Мінску. Яе бацька, Сяргей Сабаленка, у свой час прафесійна займаўся хакеем. Гуляў на пазіцыі галкіпера. Але стасункі з прафесійным спортам у Сяргея Сабаленкі не склаліся, пазней ён выступаў на аматарскім узроўні.

Затое ў яго дачкі прафесійная спартыўная кар’ера вельмі паспяховая. Менавіта бацька прывёў Арыну ў тэнісную секцыю.

Першым трэнерам Арыны Сабаленка была дачка вядомага футбаліста Міхаіла Вяргеенкі Алена.

*– Гэта была адзіная спартсменка, з якой мне было надзвычай складана,* – распавядае Алена Міхайлаўна. – *Я была з характарам, і Арына такая ж. Пару раз выганяла яе з трэніровак. Раблю заўвагу – яна мне дзесяць слоў у адказ. Калі ў яе нешта не атрымлівалася, лёталі ракеткі. Магла Арына і мне выказаць што-небудзь, так скажам, не для друку.*

*Калі Арыне было 11 гадоў, я падышла да яе мамы і сказала: «Юля, прабачце, але працаваць з вашай дачкой больш не магу. Ці яна будзе рабіць так, як я скажу, ці няхай сыходзіць». Сабаленка – адзінае дзіця, якое я выгнала са сваёй групы.*

Першыя поспехі Арыны Сабаленка прыйшліся на падлеткавы ўзрост.

У 13 гадоў тэнісістка стала лепшай на турніры Дзяржаўнага цэнтра алімпійскага рэзерву і адкрытым турніры на прызы Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі. Да пераходу ў 2014 годзе на дарослы ўзровень Сабаленка перамагла яшчэ на чатырох дзіцячых турнірах. Аднак нізкі юніёрскі рэйтынг не даваў ёй магчымасці адбірацца на юніёрскія турніры серыі Вялікага шлема. Таму яна пачала набіраць вопыт на дарослых турнірах Міжнароднай федэрацыі тэніса. Восенню 2015 года Сабаленка ўпершыню выйграла два турніры-«дзесяцітысячнікі» ў Анталы і Індыі.

Вядома, што трэнерам Арыны Сабаленка па фізічнай падрыхтоўцы з’яўляецца славуты беларускі біятланіст Вадзім Сашурын.

На корце і па-за ім Арына вельмі эмацыянальны чалавек. Самы вядомы публічны выбух эмоцый здарыўся ў Арыны ў матчы другога раунда турніру ў Нью-Хейвене, дзе беларуска гуляла з аўстралійкай Дар’яй Гаўрылавай. У другім сэце Арына саступала з лікам 2:5, пасля чаго папрасіла дапамогі асабістага трэнера Дзмітрыя Турсунава. Дыялог адбыўся такі.

**Турсунаў:** – *Пагуляй ад сябе, свабодна. Трэба зламаць ракетку – зламай. Не думай пра лік.*

**Сабаленка:** – *Мне напляваць на лік* (спартсменка тады выказалася больш рэзка, але сэнс быў прыкладна такі. – **Аўт.**). *Я не разумею, чаму я не магу ў корт патрапіць!*

Арына вярнулася ў гульню і давяла другі сэт да тай-брэйка, у якім трохі саступіла. Затое наступная партыя і адпаведна ўвесь матч былі ўжо за нашай спартсменкай.

На сённяшні дзень прызавыя, якія зарабіла Арына на тэнісных турнірах, набліжаюцца да 1 мільёна долараў. Вядома, што першыя “тэнісныя” грошы Арына, як сапраўдная дзяўчына, патраціла на адзенне.

Дарэчы, тэнісным кумірам Арыны Сабаленка з’яўляецца Марыя Шарапава. Іх нават спрабуюць параўноўваць па манеры гульні.

Хобі Арыны Сабаленка – хуткасць. Спартсменка любіць матацыклы і аўтамабілі.

На сённяшні дзень Арына не замужам, але, пагаворваюць, малады чалавек у спартсменкі ёсць.

**Падрыхтаваў Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ПРЭМ’ЕРА



# «Хрусталь» выходзіць у пракат

*30 жніўня ў Мінску і рэгіёнах стартуе паказ фільма “Хрусталь”, які Беларусь вылучыла на “Оскар”.*

За два месяцы фільм пакажуць 36 кінатэатраў у больш як 20 гарадах краіны. У Гомелі і Гродне фільм-сенсацыю гэтага лета прадставіць сама рэжысёр **Дар’я Жук.**

Сусветная прэм’ера фільма адбылася ў чэрвені гэтага года на прэстыжным Міжнародным кінафестывалі ў Карлавых Варах. У ліпені «Хрусталь» атрымаў Гран-пры на міжнародным кінафестывалі ў Адэсе.

Сёння фільм Дар’і Жук запрошаны больш як на 20 кінафестываляў.

**Аліна ВЕТРАВА.**





Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.

nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:

63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



9 772071 964000 18068

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 27.08.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 630 экз. Заказ № 2750.